


# Кніга-поштай




Каб замовіць патрэбную Вам кнігу, неабходна пазначаную суму пералічыць праз пошту на наступны рахунак:

*БГФ "Наша Ніва" р/р 3015201930039 "Гарантбанк філія АКБ Поіск" г Менска. код 987*

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары "Для пісьмовага паведамленьня" ўказаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас.

Такім чынам на пачатку Вы аплочваеце толькі кошт кнігі, а кошт дастаўкі аплоціце ўжо пры атрыманьні кнігі на пошце. Гэтая сыстэма дазволіць скараціць выдаткі, таму што пазбаўляе ад уключэньня ў кошт кнігі ўсярэдненых выдаткаў на паштовую перасылку Паштовыя выдаткі аплочваюцца па факту

*Даведкі праз тэлефон у Менску 239 78 49 Віталь Супрановіч*




## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

Беларуская дзіцячая літаратура: Хрэстаматыя: Вучэбны дапаможнік / Склад. М.Яфімава, В.Ляшук. – Менск, Вышэйшая школа, 1996. – 655 с. 6000 ас. ISBN 985-06-0159-0

Гарэнін Л. Нацыянальная ідэя ў беларускай літаратуры пачатку XX ст – Менск: Беларуская навука, 1996. – 176 с. ISBN 5-343-01689-8

Музычны тэатр Беларусі: 1960-1990: Опэрнае мастацтва; Музычная камэдыя і апэрэта / Г.Куляшова, Т.Мдывані, Н.Юўчанка. – Менск: Беларуская навука, 1996. 470 с.: іл. 500 ас. ISBN 985 08-0021 6

Працька Т. Пакутнік за Веру і Бацькаўшчыну: Мітрапаліт Мельхісэдэк. – Менск: Тэхналёгія. 1996. – 63 с., (9) арк. іл., партрэт. – (Нашыя славутыя землякі). ISBN 985-6234-12-3

Тварановіч Г. Беларуская літаратура: паўднёваславянскі кантэкст. (Адзінства генэзысу, тыпаў літаратур і характар узаемасувязяў) – Менск: Беларуская навука, 1996 275 с. 3000 ас. ISBN 985 08-00009-7

Цітоў В. Этнаграфічная сладчына. Беларусь Краіна і людзі: Вучэб.-мэтад. дапам – Менск Беларусь, 1996. 208 с.: іл. ISBN 985-01-0043-5

Шаблюк В. Сельскія паселішчы Верхняга Панямоньня: XIV XVIII ст. / Пад рэд. Я.Зьвяругі. – Менск: Беларуская навука, 1996. – 119 с.: іл. 600 ас. ISBN 5-343-01529-8

Яскевіч А. Старабеларускія граматыкі: Да праблемы агульнафілялягічнай цэласнасьці. – Менск: Беларуская навука, 1996. – 352 с 2000 ас. ISBN 985-08-0012-7

Берков В. и др. Логика. Учебное пособие (В Берков Я Яскевич В.Павлюкевич. – Менск: НТООО Тетрасистемс" 1997 416 с 6000 ас. ISBN 985-6317-01-0

Зеленкова И., Беляева Е. Этика: Учебное пособие и Практикум. Менск: НТООО "Тетрасистемс", 1997. – 320 с. 7500 ас. ISBN 985 6317-16-9

Кудрявцев В. Лекция по истории религии и свободомыслия: Учебное пособие для студентов ВУЗов. – Менск: НТООО "Тетрасистемс" 1997. – 208 с. 4000 ас. ISBN 985-6317-14-2

Липницкий С., Ярмош Н. Моделирование интеллектуальных процессов в инженерных информационных системах. – Менск: Беларуская навука, 1996. – 222 с. 450 ас. ISBN 985-08-0015 1

Лисовый И., Ревяко К. Античный мир в терминах, именах и названиях: Слов.-справ. по истории и культуре Древ. Греции и Рима / Науч. ред. А.Немировский; Предисл. Г.Шевченко. – Менск: Беларусь, 1996. – II, 253 с. ISBN 985-01-0017-6

Мельник В. Политология: Учеб. – Менск: Выш шк 1996 479 с 15000 ас. ISBN 985-06-1-0198-1

Проблемы экспериментальной ботаники. к 100 летия со дня рождения В. Купревича / Под ред. В.Парфенова. – Менск: Беларуская навука, 1997. – 469 с. ISBN 985-08-0026 7

Радкевич В. Экология. Учебник. – 3-е изд., перераб. и доп. – Менск Выш. шк., 1997. – 159 с.: ил. 5000 ас. ISBN 985-06-0202-3

Современная мировая историческая наука: Информ.-аналит. обзор (по материалам XVIII Международного конгресса историков и X Междунар. конф. "История и компьютер" – Монреаль, август – сентябрь 1995 г.) / Ред. коллегия: А.Алпеев и др. – Менск: НТООО "Тетрасистемс", 1996. – 196 с. 1000 ас. ISBN 985-6317-05-3

## НАВІНКА



**Тацяна Працька. Пакутнік за Веру і Бацькаўшчыну: Мітрапаліт Мельхісэдэк. – Менск Тэхналёгія, 1996**

У змрочнай ідэалягічнай атмасфэры, калі и царква дае санкцыю рэжыму, гэтая кніга робіцца сэнсацыйнаю. Бо распавядае пра Беларускае Праваслаўе, якое не пайшло на згоду з бальшавізмам і дбала пра нацыянальныя інтарэсы

*На складзе БГФ "Наша Ніва" есьць касэты (кошт 30 000 БРБ)*

1 **Новае Неба.** Сон у трамваі (1994)
2. **Новае Неба.** Go home (1995).
3. **Новае Неба.** Дзеці чорнага гораду (1991)
4 **Крама.** Камэндант (1995).
5. **Крама.** Хворы на Rock-n-Roll.
6. **Крама** Гэй там налівай! (1994).
7. **N.R.M.** LaLaLa (1995).
8 **Ulis.** Life (1996).
9 **Уліс.** Чужаніца (1991).
10. **Уліс.** Краіна доўгай белай хмары (1990)
11. **Бонда.** Найлепшыя песьні.
12 **Мясцовы час.** Наша ўскраіна (1991)
13 **Палац** Палац (1996).
14. **Песьні беларускіх бардаў** (1992)
15. **Рэнэсанс** (беларускі джаз).
16 **Беларускія народныя казкі**.
17 **Беларуская музычная літаратура** (т т 1 4)
18. **Беларуская гітарная музыка**
19. **Залаты фонд беларускага рок-н-ролу** (т т 1 5)
т.1: Бонда. Уліс. Рэй. Мясцовы Час. Блізьняты.
т.2: Бонда. Уліс. Мроя. Крама. Новае Неба. Мясцовы Час. Тутэйшыя хлопцы
т.3: Золотая середина. Отражение. Алексей Шедько & "Доктор Моро". Гранит Метро. Сузор'е. Зартипо
т.4: Палац. Уліс. Крама. Новае Неба. Мроя.
т.5: Зиндан. Why Not. Отражение. Инспектор. Red Dynamite Флэт
20 **Мроя.** Найлепшыя песьні з праграмаў 1987-90 г
21 **Уліс.** Блуканьне (1996).
22 **Віктар Шалкевіч.** Смутны беларускі блюз (1996)
23 **Камэлот.** У краіне талераў (1995)
24 **Zindan** (1994).
25 **Крама.** The Best (1996).
26. **Андрэй Мельнікаў.** Гэта – Мы! (1996)
27. **NRM.** Одзірыдзідзіна (1996)
28 **Andrej Mielnikaŭ.**
29. **Andrej Mielnikaŭ.**
30. **Andrej Mielnikaŭ.** Uspamin (1994-1995)
31 **Andrej Mielnikaŭ.** Salam Saŭkam (1993)
32. **Valžyna Ciareščanka** (1991-1995).
33 **Ліцьвіны.** 5 сакавіка (1996).
34 **Беларуская сымфанічная музыка** (1996).

*Зьвяртайцеся праз тэл. 239-78-49. Праз пошту: 220085, Менск, а/с 5. Віталь Супрановіч.*

## ЛІТОЎСКАЯ МЭТРЫКА

Выйшла з друку новая кніга Мэтрыкі — том 7 У Менск таксама завезеныя тамы 5, 6, 8. Просьба да ахвотных свае заяўкі дасылаць пісьмова на адрас: 220085 Менск а/с 5 Віталь Супрановіч

Калі Вы маеце тэлефон, пазначце яго

Тамы Мэтрыкі разьмяркоўваюцца адпаведна з чарговасьцю заявак

